**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.57, 21.16, 16.19;
Віцебск — 4.40, 21.12, 16.32;
Магілёў — 4.46, 21.05, 16.19;
Гомель — 4.49, 20.56, 16.07;
Гродна — 5.12, 21.31, 16.19;
Брэст — 5.21, 21.23, 16.02.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 16 мая.

**ІМЯНІНЫ:**
Міколы;
Галены, Юліі.



# ЗВЯЗДА

22 МАЯ 1992 г.
пятніца, № 101 (21879)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### ЗНОЎ РТУЦЬ...

**ГРОДНА. (Б. Пракопчык). Вечарам у міліцыю пазваніў мужчына і паведаміў, што каля дома № 44 па вуліцы Курчатава раскіданы шарыкі ртуці. Каля месца здарэння былі аператыўна выстаўлены ахоўныя пасты, сюды ж прыехалі работнікі штаба грамадзянскай абароны вобласці, якія разам са спецыялістамі выратавальнай службы аб'яднання «Азот» сабралі 800 грамаў небяспечнага рэчыва. Падрабязнасці — у наступным нумары.**

### УЗГАДАЕМ ВЯЛІКУЮ АСВЕТНІЦУ

**23 мая Беларуская грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква ўшаноўвае святую Прадславу-Ефрасінню Полацкую, асветніцу Беларусі. Свята адзначае як грэка-каталіцкая, так і праваслаўная царква, розніца толькі ў каляндарных днях.**

Аднак Беларускай грэка-каталіцкай царквой гэтаму святу надаецца больш увагі, як і святам усіх беларускіх святых. Асаблівага абраду святкавання няма, але ў гэты дзень у час святочнай літургіі гучаць малітвы «За беларускі народ» і звернутыя да Святой Ефрасінні — заступніцы Беларусі. У храмах абавязкова прысутнічае абраз з выявай Ефрасінні Полацкай, а асноўная частка святкаванняў, безумоўна, адбываецца ў самім Полацку, дзе асветніца пачала сваю дзейнасць,

### Што напісана пяром—вельмі лёгка «высякаецца», як паказвае жыццё

**З учарашняга дня на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі перастае дзейнічаць пагадненне, падпісанае зімой гэтага года кіраўнікамі краін СНД, у тым ліку і Б. Ельцыным, аб вяртанні гістарычных і культурных каштоўнасцей дзяржавам іх паходжання. Такое рашэнне прыняў Савет Рэспублікі ВС Расіі. Ніякіх тлумачэнняў пры гэтым дадзена не было.**

**А мы так спадзяваліся...**

### НА 99 ПРАЦЭНТАЎ

можа пацвердзіцца сенсацыйная неафіцыйная інфармацыя, якую нам паведамілі з колаў, блізкіх да кіраўніцтва Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Сутнасць яе ў наступным— **з панядзелка, 25 мая,** Беларусь пачынае ўводзіць уласныя грошы. Спачатку мяркуецца 50 працэнтаў зарплаты выдаваць новымі грашамі, потым, выкарыстоўваючы словы М. Гарбачова, «працэс пойдзе». А адзін працэнт ад праўдзівасці гэтай інфармацыі ўсё ж пакінем на ўсялякія нечаканыя выпадкі. У нас жа нічога нельга дакладна прагназіраваць.

### ВЫБРАНЫ ЧЛЕНКОРАМ

**Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч выбраны членам-карэспандэнтам Міжнароднай інжынернай акадэміі па спецыяльнасці «Эканоміка». Паведамленне аб гэтым, а таксама віншаванні прэм'ер-міністру змешчаны ў тэлеграме, якая паступіла ў Савет Міністраў рэспублікі ад імя кіраўніцтва Міжнароднай інжынернай акадэміі з Масквы.**

### Метро страціла кожнага пятага пасажыра

МІНСК. Пасля павышэння цэн на паслугі метрапалітэна з пяці да дваццаці, потым сарака капеек, а цяпер фармальна да рубля адны катэгарычна заяўлялі, што людзі прывыкнуць да новых цэн і будуць ездзіць як звычайна, другія скептычна заяўлялі, што колькасць пасажыраў метро значна паменшыцца. Апошнія даныя мінгарстата паказалі, што рацыю маюць скептыкі. Так, мінскім метрапалітэнам з пачатку года перавезена 29,2 мільёна пасажыраў. Лічбы ўражваюць, але аб'ём перавозак у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года скараціўся на 22 працэнты. Такім чынам, метро страціла амаль кожнага пятага патэнцыяльнага пасажыра!

### Супрацоўніцтва атрымае падтрымку

Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіл Мясніковіч прыняў у Доме ўрада групу італьянскіх бізнесменаў на чале з прэзідэнтам фінансава-гандлёвай холдынг-кампаніі «Фор трэйд фінэнсінг» панам Джакома Кора. Сфера дзейнасці кампаніі і яе фірм — фінансаванне, гандаль, прамысловае і сельскагаспадарчае інвесціраванне, інвесціраванне пад нерухомасць і пад новыя тэхналогіі.

У час праведзеных перагавораў пан Дж. Кора расказаў аб сваіх уражаннях ад знаходжання ў нашай рэспубліцы, аб сустрэчах з прадстаўнікамі яе дзелавых колаў, аб планах дзейнасці кампаніі ў Беларусі. У прыватнасці, ужо ёсць папярэдняя дамоўленасць з нашым Знешэканомбанкам аб стварэнні сумеснага прадпрыемства.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

## СУСТРЭЧА, ЯКОЙ ЗАДАВОЛЕНЫ ЎСЕ



**Прэзідэнт Фінляндыі Мауна Койвіста стаў першым з лідэраў краін свету, якія пачалі «асвойваць» суверэнную і незалежную Рэспубліку Беларусь. І гэта, думаецца, не выпадкова. Па-першае, нашы народы здаўна цягнуцца адзін да аднаго, незалежна ад палітычнай абстаноўкі, нейкіх там сітуацый і павеваў імкнуліся раней, імкнуцца і зараз шукаць агульныя пункты гледжання як на становішча ў свеце, так і ў сваіх краінах. А, па-другое, многія вытворчыя калектывы ўсталявалі і працягваюць усталёўваць дзелавыя партнёрскія сувязі і кантакты паміж сабой... Трывалыя ўзаемаадносіны ёсць і ў сферах культуры, навукі, спорту. Пасля афіцыйнага візіту Прэзідэнта Фінляндыі ў Мінск іх, гэтых сувязей і кантактаў, стане, несумненна, яшчэ больш.**

Сустракаючыся з нашым кіраўніцтвам, Мауна Койвіста не прамінуў зазначыць: цяпер у Хельсінкі якраз ідзе сустрэча краін—удзельнікаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая будзе завершана на найвышэйшым палітычным узроўні. Выказаўшы надзею, што ў ёй прыме ўдзел і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, наш госць дадаў, што Фінляндыя гатова развіваць сувязі з Беларуссю ў самых розных сектарах жыцця грамадства, паміж гарадамі, арганізацыямі, саюзамі і, што, як мне падалося, асабліва важна — паміж звычайнымі людзьмі... М. Койвіста так і сказаў: «Звычайнымі...», гэта значыць, і паміж намі з фінамі, чытач.

Богу б у вушы, гэтыя словы!

Так, цяпер мэтамі і беларускага, і фінскага бакоў павінны стаць добрыя цывілізаваныя сувязі і кантакты паміж двума еўрапейскімі нацыямі. І служыць яны павінны Чалавеку.

Параўнальна невялікая Фінляндыя займае на еўрапейскім кантыненце сваё, цывілізаванае і адметнае становішча. У гарантаванні і ўмацаванні бяспекі ў Еўропе яна, без перабольшання, не адзін год задае, як кажуць, тон. Да голасу спачатку Урха Кеканена, а цяпер — Маўна Койвісты прыслухоўваліся і прыслухоўваюцца самыя высокапастаўленыя, аўтарытэтныя, і нават — агрэсіўныя дзеячы і палітыкі — як Захаду, так і Усходу. І вельмі прыемна было пачуць з вуснаў высокага госця беларускай сталіцы: «Мы гатовы да дыялога і падтрымліваем удзел Беларусі ў рабоце форумаў, на якіх разглядаюцца і будуць разглядацца надалей самыя розныя пытанні і праблемы жыцця і супрацоўніцтва на нашым кантыненце».

Пасля перагавораў дэлегацый Рэспублікі Беларусь і Фінляндскай Рэспублікі на чале са Станіславам Шушкевічам і Маўна Койвістам высокі госць меў сустрэчу са Старшынёй Савета Міністраў Беларусі Вячаславам Кебічам. Цёпла і шчыра гутарылі яны, Вячаслаў Францавіч высока ацаніў асабістую ролю Койвісты як прадаўжальніка палітыкі, закладзенай папярэднімі фінскімі кіраўнікамі Паасіківі і Кекяненам. «Вопыт Фінляндыі мае для Беларусі асаблівую каштоўнасць, — сказаў В. Кебіч. — Абвясціўшы сябе нейтральнай і бяз'ядзернай, наша рэспубліка возьме для сябе шмат што з гэтага вопыту...»

М. Койвіста і на гэты раз выказаўся за шырокае і шматбаковае супрацоўніцтва паміж дзвюма суверэннымі краінамі.

Пасля перагавораў адбылося падпісанне міжурадавага пагаднення аб гандлі і эканамічным супрацоўніцтве. З беларускага боку яго падпісаў старшыня Камітэта па знешніх эканамічных сувязях Уладзімір Радкевіч, з фінскага — міністр замежных спраў Паава Вяюрунен.

А затым адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў. І хоць прадстаўнікоў друку, тэлебачання і радыё было на ёй няшмат, размова адбылася цікавая і карысная. Прэзідэнт Фінляндыі спадабаўся нам сваёй адкрытасцю і шчырасцю. Ён верыць у нашу лепшую будучыню, спадзяецца, што будуць знойдзены шляхі, якія адкрыюць душы і сэрцы беларусаў і фінаў адзін для аднаго. Дзень для кіраўніка суседняй краіны быў напружаным і адказным, але, як сказаў сам Прэзідэнт, ён задаволены ўсім. І прыёмам у Мінску, і падпісаным пагадненнем, і сустрэчай з намі, журналістамі... У сваю чаргу, усё спадабалася і нам.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

**На здымках:**
**У. Радкевіч і П. Вяюрунен** падпісваюць міжурадавае пагадненне;
у час прэс-канферэнцыі.
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



## РАДЫЁФАКТ

У пачатку чэрвеня ў Рыо-дэ-Жанейра пройдзе канферэнцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па навакольнаму асяроддзю. У яе рабоце будзе ўдзельнічаць беларуская дэлегацыя на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам.

**У Мінску падпісаны пагадненні паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча аб міжнародных аўтамабільных і чыгуначных зносінах цераз дзяржаўную беларускую граніцу. Калі для Польшчы падпісанне гэтых дакументаў з'ява звычайная, то для Беларусі гэта гістарычны акт. Справа ў тым, што яшчэ зусім нядаўна гэтую прэрагатыву мелі выключна саюзныя органы, а пасля развалу СССР іх функцыі ўзялі на сябе і выконвалі расійскія міністэрствы.**

У «Радыёфакт» прыйшоў ліст з Пінска за подпісам сямі народных дэпутатаў гарадскога Савета. Гэта адкрытае пісьмо кіраўнікам гарвыканкома. Сярод іншых, у пісьме ўтрымліваецца і такое пытанне: «Чаму, калі мясакамбінат завалены мясам, трэба выстойваць даўжэзныя чэргі, каб набыць кавалак гэтага прадукту, ці каўбасу?» Адказваючы на гэтае пытанне, першы намеснік старшыні Пінскага гарвыканкома П. Цішук засведчыў, што, сапраўды, у халадзільніках мясцовага камбіната маецца каля 500 тон ялавічыны і 150 тон птушкі». Сітуацыю П. Цішук тлумачыць так: «І выканком не дапрацоўвае, і з намі, мусіць, не лічыцца ўрад і нават сітуацыю на месцах дасканала ён не ведае...»

**У Мінску выйшаў з друку «Даведнік нарматыўна-заканадаўчых актаў удзельніка знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь». Ён уключае адрасы і тэлефоны рэспубліканскіх органаў кіравання знешнегандлёвых ведамстваў, устаноў і фірм замежных прадстаўніцтваў на тэрыторыі Беларусі. У даведнік таксама ўключаны рэкамендацыі па гандлёва-пасрэдніцкіх аперацыях, маркецінгавай і рэкламнай дзейнасці, валютнаму і мытнаму рэгуляванню, падаткаабкладанню і страхаванню.**

Як паведамляе рэспубліканскі цэнтр па прафілактыцы СНІДу, у нашай рэспубліцы зарэгістраваны яшчэ дзве асобы з ВІЧ-інфекцыяй. Сярод тых, хто ўжывае наркотыкі ўнутрывенна, гэта першы выпадак выяўлення заражоных СНІДам на тэрыторыі былога Саюза. Адзін з іх — карэнны жыхар Беларусі, другі — выхадзец з Каўказа. Абодва ў мінулым мелі мноства палавых сувязей, у тым ліку з прадстаўнікамі груп рызыкі.

**З тэрыторыі базы трэста «Белспецмантаж» зніклі 7 тон 345 кілаграмаў латуннага пракату ў злітках на 14 тысяч 983 рублі і 80 капеек.**

**Як, напэўна, заўважыў чытач, кіраўнікі трэста падлічылі нават капейкі. Хацелася б верыць, што яны ў стане падлічыць, у якую суму абыходзіцца дзяржаве пошук украдзенага...**

Без шырокага апавяшчэння ўсе аддзяленні Беларускага нацыянальнага банка ў Пінску распакавалі цюкі зношаных грашовых білетаў, якія прызначаліся для адпраўкі на утылізацыю ў Маскву. Толькі ў гэтым палескім горадзе ў абарот выпушчана падраных чырвонцаў і 25-рублёвак на агульную суму 800 тысяч рублёў.

Сцёртыя, як кажуць, да дзірак, гэтыя грашовыя знакі, вядома, выклікалі шмат нараканняў ля касавых апаратаў і акенцаў ашчадных банкаў. Але скаргі скаргамі, а ўсе ўстановы Пінска зараз безагаворачна прымаюць рваныя і клееныя грошы.

**Чарга перайменаванняў дайшла, нарэшце, і да Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску. Цяпер яна будзе насіць назву «Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**





## «ІДЗІ Ж, НАРОДЗЕ ЎВАСКРЭСЛЫ!»

**«Душа сама ведае, дзе святло, дзе праўда, дзе Бог, — ціха расказвае мне бабулька, якую гарачы людскі натоўп усё шчыльней прыціскае да мяне. — Паслухай сябе: ці не праўда, з сэрца ідзе радасць? Гэта твая душа цягнецца да святла Нязгаснай лампады, да святога агню. Ён растопіць усё нядобрае, ачысціць, а ты толькі захавай гэтае святло, не патушы злом».**

«Нязгасная лампада», што ўзгаралася перад Вялікаднем ад агню ля Труны Гасподняй у Іерусаліме, прыйшла да нас на Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур. Яе неслі тым шляхам, якім ішлі да нас святыя роўнаапостальскія Кірыла і Мяфодзій, несучы людзям святло ведаў і духоўнасці. Сённяшні шлях міратворчай місіі пралёг і праз краіны, дзе не ўсё зараз спакойна, дзе людзі не могуць пазбавіцца варажнечы, забыўшыся на духоўныя запаведзі славянскіх першаасветнікаў: усе свае спрэчкі вырашаць праз слова, памятаць яго магутную сілу. Мы забыліся на гэтую мудрасць, за што расплачваемся братняй крывёю, дачасна змярцвелымі ад нянавісці сэрцамі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### ВІТАМІННЫ АЛФАВІТ

### $B_1$ $B_2$ $B_3$

**Працягваем публікацыю «вітаміннага алфавіта». Наступны вітамін, у якім мае вялікую патрэбу арганізм чалавека,— з групы «В».**

#### ВІТАМІН $B_1$ (тыямін)

Ён аказвае ўплыў на стан нервовай сістэмы. Сутачная норма 2—3 мг. Пры яго нястачы парушаецца дзейнасць нервовай сістэмы, узнікаюць неўрозы, неўрастэнія, пагаршаецца абмен бялкоў і вугляводаў, засваенне цукру арганізмам, работа сэрца. З'яўляецца мышачная слабасць, ацёкі ног, млоснасць і задышка нават пры невялікіх недамаганнях. Павялічваецца ядавітае дзеянне этылавага спірту і нікаціну. Нястача вітаміну $B_1$— адна з прычын узнікнення і абвастрэння радыкуліту.

Крыніцы вітаміну $B_1$ — хлеб (асабліва шэры з непрасеянай мукі), каша ячневая, аўсяная, пшанічная, грэцкая, фасоля, соя, гарох, каляровая капуста, дрожджы, хлебны квас, печань, ныркі, мяса.



#### ВІТАМІН $B_2$ (рыбафлавін)

Сутачная патрэба 2—3 мг. Павышае засваяльнасць страў, паляпшае абмен рэчываў, нармалізуе зрок. Калі яго не хапае, узнікае запаленне вуснаў, слізістай абалонкі рота, скуры твару, паяўляюцца галаўныя болі, назіраецца адсутнасць апетыту, зніжаецца працаздольнасць. Развіваецца малакроўе, дрэнна загойваюцца раны.

Крыніцы вітаміну $B_2$ — хлеб, агароднiна (асабліва капуста), салата, морква, злакі, грыбы, зялёны гарошак, слівы, персікі, а таксама малако, тварог, мяса, яйкі, дрожджы.

#### ВІТАМІН $B_3$ (пантатэнавая кіслата)

Сутачная патрэба 5—10 мг. Гэты вітамін неабходны для нармальнага абмену рэчываў, у першую чаргу бялкоў, стымулюе крыватварэнне, развіццё натуральнага імунітэту супраць некаторых захворванняў. Ён часткова сінтэзуецца мікраарганізмамі, якія знаходзяцца ў кішэчніку чалавека. Пры нястачы гэтага вітаміну парушаецца засваенне бялкоў, вугляводаў і тлушчаў у працэсе харчавання. Узнікаюць болі ў сэрцы, вяласць, апатыя, а таксама захворванні страўніка і кішак, запаленне скуры, наступае заўчаснае пасівенне валасоў.

Паколькі гэты вітамін утрымліваецца ў многіх прадуктах харчавання, арганізм даволі рэдка адчувае яго нястачу. Крыніца вітаміну $B_3$ — хлеб, бульба, морква, дрожджы, печань, мяса, малако, яйкі і інш.

Адзначым таксама, што зараз у аптэках вітамінных прэпаратаў амаль што няма, ды і выкарыстоўваць іх трэба толькі па прадпісанню ўрача. Таму свежыя агароднiна, садавіна, розная зеляніна, на якія такі шчодры (будзем спадзявацца!) наступаючы летні сезон,— тая крыніца, якую неабходна ў найбольшай ступені выкарыстаць для ўмацавання ўласнага здароўя.

### ЛЯСНАЯ АПТЭКА

## Бяроза—белая сяброўка

**Беластволую прыгажуню бярозу спрадвеку цанілі не толькі за яе прыгажосць, але і за тую карысць, што яна прыносіць людзям. Усё ў бярозы — ад непрыкметнай пупышкі да бяросты, а таксама і грыб чага, што вырастае на кары бярозы,— гаючае.**

**Бярозавыя пупышкі збіраюць ранняй вясной,** калі яны толькі пачынаюць набухаць (у сакавіку-красавіку).



Пажадана зразаць галінкі са старых дрэў, звязваць іх у пучкі, сушыць пад павеццю ці на гарышчы.

**Чагу можна збіраць круглы год.** Яе ссякаюць сякерай, здрабняюць да 3—5 см і сушаць пры тэмпературы не вышэй 60 градусаў.

**Пры хваробах нырак і мачавога пузыра, ацёках, вадзянцы** ўжываюць настойку (1:5), адвар ці настой з пупышак. Настой гатуюць з разліку адна чайная лыжка пупышак на паўшклянкі кіпню. Прымаць па дзве-тры сталовыя лыжкі тры-чатыры разы ў дзень. Адвар гатуюць з разліку 30 грамаў пупышак на адну шклянку і прымаюць гэтак жа, як і настой.

**Пры запаленні суставаў (рэўматычнага і падагрычнага характару), пры ранах, што доўга не загойваюцца і гнаяцца, язвах, пролежнях** рэкамендуюць выкарыстоўваць як вонкавае для ўціранняў, кампрэсаў і прымочак настойку бярозавых пупышак на 70-працэнтным спірце (1:5).

**Пры кашлі** дзве сталовыя лыжкі бярозавых пупышак змяшаць з 70 грамамі несалёнага масла. Паставіць на агонь, давесці да кіпення, але не кіпяціць. Трымаць на павольным агні ці ў духоўцы ад сарака хвілін да адной гадзіны. Зняць з агню, калі будзе яшчэ цёплае, працадзіць, адціснуць. Пупышкі адкінуць, а ў атрыманую масу дадаць 200 грамаў мёду і добра размяшаць. Гэтую сумесь прымаць па адной сталовай лыжцы чатыры разы ў дзень.

**Пры запаленні печані, пры язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі** бяруць 50 грамаў пупышак бярозы, настойваюць іх на працягу дзесяці дзён на 500 грамах гарэлкі і прымаюць па адной чайнай лыжцы з вадой тры разы ў дзень за 15—20 хвілін да яды.

**Як мачагонны сродак і проціцынготны прэпарат** выкарыстоўваюць адвар са свежага бярозавага лісця, якое заварваюць кіпнем (1:10), настойваюць шэсць гадзін і прымаюць па паўшклянкі два-тры разы ў дзень.

**Пры ляўэнні гастрытаў, язвеннай хваробе страўніка, пры розных пухлінах у вобласці страўніка і кішэчніка** выкарыстоўваюць настой чагі. Грыб мыюць і замочваюць у гатаванай вадзе на чатыры-пяць гадзін, потым здрабняюць (можна цераз мясарубку) і настойваюць у гэтай жа вадзе, падагрэтай да 50 градусаў, двое сутак (можна ў тэрмасе). Асадак адціскаюць, фільтруюць праз некалькі слаёў марлі, дабаўляюць ваду да патрэбнага аб'ёму (1:5). Настой можна захоўваць у халадзільніку тры-чатыры дні. Пры пухлінах рэкамендуюць не менш чым тры шклянкі ў суткі дробнымі порцыямі за 30 хвілін да яды. Пры гэтым неабходна малочна-раслінная дыета.



### ВАША ЗДАРОЎЕ

## Асцярожна з часнаком

**У літаратуры пра часнок усюды напісана, што без яго не абысціся, быццам бы лечыць ён амаль усе хваробы. А ў народзе да часнака адносіны заўсёды былі асцярожныя.**

**Прыблізна з 50-х гадоў ходзіць па руках так званы «Рэцэпт кітайскага гомеапатычнага сродку». У ім сказана, што часнок, настояны на спірце і прымаемы па схеме (ад адной кроплі да 20 і зноў да адной), лечыць гіпертанію, інфаркт, стэнакардыю, склероз сасудаў галаўнога мозгу, паляпшае зрок і г. д.**

Шматгадовыя назіранні сведчаць: сапраўды, некаторыя хворыя атрымлівалі часовую палёгку — сціхалі галаўныя болі, паніжаўся крывяны ціск. Але стойкага выніку не было. А вось гастрыт, захворванні падстраўнікавай залозы пасля ўжывання такой настойкі абвастраліся.

Хворыя псарыязам расказваюць, якімі парадамі яны імкнуліся карыстацца: змазвалі сокам часнаку ці часночнай кашкай паражоныя ўчасткі скуры і пілі часночныя настойкі. Спачатку быццам бы такое лячэнне і дапамагае, але хутка хвароба абвастраецца. Ды інакш і быць не можа. Бо псарыяз — захворванне ўнутраных органаў, а не скуры. У прыватнасці, яно звязана з парушэннямі функцый печані, падстраўнікавай залозы. На гэтыя органы, калі яны не ў норме, часнок уздзейнічае адмоўна. Ад яго ўжывання могуць таксама абвастрацца халецыстыт, хранічныя запаленчыя гінекалагічныя захворванні.

Не трэба давяраць міфам аб лекавых уласцівасцях раслін. Такім міфам з'яўляецца, у прыватнасці, лячэнне часнаком парадантозу. На самай справе ад гэтага хворыя дзясны яшчэ больш запаляюцца і баляць. Пасля часночных інгаляцый пры прастудных захворваннях многія скардзяцца на болі ў вобласці сэрца. Тут ёсць прамая сувязь.

Раяць ужываць часнок як прафілактычны проціпухлінны сродак. Ёсць людзі, якія наскрозь прапахлі часнаком ад такой «прафілактыкі». Але практыкай не даказана, што часнок валодае падобнымі ўласцівасцямі. А вось што вядома дакладна: пры анкалагічных захворваннях лёгкіх ад ўдыхання часнаку стан хворага рэзка пагаршаецца.

# РОЗГАЛАС

## СЛЕД ЧАРАПАХІ НА КАНТРОЛЬНА-СЛЕДАВОЙ ПАЛАСЕ

**БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). 500 чарапахамі адразу папоўнілася фауна Прыбужжа.**

Прычым гэтыя чарапахі прайшлі мытны дагляд. А справа ў тым, што група турыстаў з Сярэдняй Азіі везла з сабой у Польшчу 500 чарапах. Відаць, разлічвалі прадаць гэтых рэдкіх рэліктавых рэптылій на рынках суседняй краіны.

Аднак кантрабанда была выяўлена. Прыйшлося выпусціць чарапах паблізу пагранпаласы.

Можа, самыя смелыя з іх змогуць пераплыць прыгранічны Заходні Буг і апынуцца на польскім беразе. Тут ужо пагранічная варта будзе бездапаможнай.

## АБРАЗАННЕ—СПРАВА ЎСЕНАРОДНАЯ?

**ГРОДНА. Абласны аддзел аховы здароўя пайшоў насустрач шматлікім зваротам прадстаўнікоў рэлігійнага аб'яднання мусульман Гродна і дазволіў рабіць абразанне крайняй плоці на базе 8-га кірургічнага аддзялення дзіцячай клінічнай бальніцы. Аперацыя для дарослых каштуе 540 рублёў, для дзяцей — 500. Раней вернікі-мусульмане выконвалі гэту рэлігійную традыцыю ў хатніх умовах і амаль што бясплатна. Цяпер, канешне, дорага, але лепш рабіць абразанне ў бальніцы. Больш надзейна.**

## ТРАЛЕЙБУСНЫ УЛЬТЫМАТУМ

ГРОДНА **(Б. Пракопчык).** 20 мая прыкладна з 15 да 17 гадзін з вуліц абласнога цэнтра зніклі амаль усе тралейбусы. Сур'ёзныя непрыемнасці ўзніклі ў тысяч гродзенцаў і гасцей горада. Ну, а вадзіцелі тралейбусаў, кінуўшы работу, у гэты час абмяркоўвалі свае надзённыя праблемы. Справа ў тым, што ў ашчаднай касе, дзе яны атрымліваюць зарплату, хапіла грошай толькі чалавек на 50. І адразу, як гэта сёння модна, у ход пайшлі ультыматумы. Маўляў, не будзе заўтра зарплаты — увесь горад прымусім хадзіць пешшу.

Кіраўнікі адпаведных гарадскіх службаў, выслухаўшы вадзіцеляў, паабяцалі аператыўна вырашыць праблему. Але дапамагчы ўсім працоўным калектывам, якія трапілі ў такое ж становішча, проста немагчыма, паколькі ў Гродна грошай не друкуюць.

# Міліцыя ўваходзіць у рынак. Пакуль нясмела

Гэтая думка неаднаразова гучала на імправізаваным брыфінгу ў Міністэрстве ўнутраных спраў рэспублікі. Начальнік упраўлення па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы Генадзь Данілаў падкрэсліў, што галоўная праблема міліцыі — кадры, якія б валодалі «рынычнай» сітуацыяй. Сёлета юрыдычныя ўстановы рэспублікі далі міліцыі мізэр сваіх выпускнікоў. Фактычна прэстыж міліцэйскіх пагонаў упаў. Той жа юрыст можа зарабіць значна большыя грошы ў малых прадпрыемствах і кааператывах.

Таму ў міністэрстве вызначаны прыярытэтны напрамак: стварэнне якасна новай міліцэйскай акадэміі, якая б рыхтавала высокакваліфікаваныя міліцэйскія кадры. Гэта датычыць і мытнай службы, і падатковай міліцыі.

Цяпер жа беларуская мытня далёкая ад той, якую павінна мець незалежная Беларусь. На брыфінгу называўся выпадак, калі мытныя службы прапусцілі некалькі мяхоў з валютай. Мяхі былі нават з пломбамі. Што датычыцца падаткаў, то працэс іх утойвання пераўзышоў нават самыя смелыя меркаванні. Дзяржаўны бюджэт недаатрымлівае вялікія грошы. І часта менавіта таму, што ў міліцыі не хапае адпаведных спецыялістаў.

Карацей кажучы, рынак пакуль апярэджвае вартавых правапарадку. Але апошнія таксама не хочуць мірыцца з пазіцыяй назіральніка.

На пятнаццаць працэнтаў скарочаны кіруючы апарат МУС. Адны скарочаныя пайшлі на пенсію, другія —на «месцы», а некаторым увогуле прыйшлося развітацца з органамі. Хоць апошніх вельмі нязначная частка. Нарэшце міліцыя задала сабе пытанне: а навошта міліцэйскія пагоны ўрачам, членам савета «Дынама» і іншым, якім яшчэ ў застойныя часы параздавалі міліцэйскія пагоны? Павінны ўзмацняцца крымінальны вышук, раённыя аддзелы ўнутраных спраў. У Гродна, напрыклад, стварылі аддзяленні міліцыі па мікрараёнах, і гэта дае свае станоўчыя вынікі.

Апошняе неабходна таму, што рэспубліку, ды мусіць і ўсю Садружнасць, ахапіла самая сапраўдная «эпідэмія» кватэрных і аўтамабільных крадзяжоў. Крадуць з кватэр цяпер многа і часта. А вось раскрывальнасць складае пакуль 60 працэнтаў, па ўкрадзеных машынах яшчэ горш — 50.

Рэформы закранулі і беларускую турму. Там цяпер дазволена насіць кароткія прычоскі, глядзець тэлевізар і атрымліваць пасылкі любой вагі. Не за гарамі той час, як было сказана на брыфінгу, калі нашы турмы будуць адпавядаць міжнародным турэмным стандартам.

Шчыра кажучы, у апошняе верыцца з цяжкасцю, а вось да таго паведамлення, што да начнога патрулявання прыцягваецца дывізія ўнутраных войск і асобныя армейскія падраздзяленні, даверу і нейкай удзячнасці больш. Прыемна думаць, што хоць спаць пры рынку мы будзем лепш.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

## «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** У час баёў на граніцы паміж Арменіяй і Нахічэванню загінулі 17 чалавек і звыш ста паранены. Прэм'ер-міністр Турцыі Дэмірэль выключыў магчымасць ваеннага ўмяшання Турцыі ў Нахічэвані. Адначасова Дэмірэль заклікаў Злучаныя Штаты Амерыкі і Расію ўмяшацца ў грамадзянскую вайну ў гэтым рэгіёне.**

* У сераду ў выніку нападзення на аўтобус у Паўднёвай Асеціі загінулі 30 чалавек.

*** У Тайландзе кіраўніцтва арміі патрабуе адстаўкі цяперашняга ўрада. У Бангкоку і яго наваколлі працягваюцца перастрэлкі паміж вернымі ўраду падраздзяленнямі і салдатамі, якія патрабуюць звяржэння прэм'ер-міністра. Тайландскія ўлады ўвялі каменданцкую гадзіну, якая, аднак, не захоўваецца тысячамі дэманстрантаў.**

* Былы міністр абароны Філіпін Фідэль Рамос апярэдзіў прыкладна на 600 тысяч галасоў другога кандыдата на пост прэзідэнта Міліян Санцьяга. Пані Санцьяга — былая суддзя — абвінавацiла ўлады ў падтасоўцы вынікаў выбараў і паведаміла аб маючых адбыцца акцыях пратэсту. Філіпінскі кангрэс аб'явіць канчатковыя вынікі выбараў 25 мая.

*** У сераду ў горад Айхор (Ніжняя Саксонія) прыбылі 160 дзяцей, урачоў і суправаджаючых з пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы раёнаў Беларусі. У бліжэйшыя тыдні гасцямі зямлі Ніжняя Саксонія стануць 1300 дзяцей і звыш 300 выхавацеляў і медработнікаў. Такая самая буйная ў ФРГ акцыя дапамогі дзецям з зоны Чарнобыля ў час канікулаў праводзіцца сёлета ўжо ў другі раз. Яна фінансуецца асобнымі сем'ямі, царкоўнымі арганізацыямі і зямельным урадам у Гановеры.**

## «БІ-БІ-СІ»

* Злучаныя Штаты Амерыкі ўзмацняюць дыпламатычны ціск на Сербію. Яны забаранілі нацыянальнай авіякампаніі Югаславіі здзяйсняць пасадкі самалётаў на сваёй тэрыторыі. Тры штотыднёвыя рэйсы з Бялграда ў Нью-Йорк і Чыкага спыніліся тут жа.

*** Іспанскае радыё паведаміла, што паліцыя ў Барселоне выявіла амаль шэсць з палавінай тон гашышу на борце расійскага судна. Гэта адна з самых вялікіх партый наркотыка, выяўленых у гэтым горадзе. Судна затрымана.**

## РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Місія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зноў адклала сваю паездку ў Нагорны Карабах. Цяпер гэта зроблена для таго, каб забраць груз гуманітарнай дапамогі са складаў ААН у Капенгагене. Прадстаўленыя Грэцыяй транспартныя самалёты павінны ў чацвер вылецець з Афін у Ерэван з місіяй на борце. У пятніцу і суботу яна будзе ў сталіцы Арменіі, а потым накіруецца ў Нагорны Карабах. У аўторак місія завершыць сваю работу ў Баку. У выпадку неабходнасці візіт можа быць прадоўжаны.

*** Амерыканская дабрачынная арганізацыя «Фонд Полнцмана» ў Лос-Анджэлесе засноўвае прэміі памяці вядомага праваабаронцы Андрэя Сахарава. Першыя прэміі на агульную суму 100 тысяч долараў будуць прысуджаны ў 1993 годзе. Прэміі імя Сахарава будуць прысуджацца людзям, якія дакажуць сваю вернасць пазітыўным сацыяльным пераўтварэнням у сваіх краінах.**

* У мінулы аўторак адбылося адключэнне турбіны і генератара першага энергаблока Хмяльніцкай атамнай электрастанцыі. Гэта здарылася ў выніку памылковай спрацоўкі камплекта аховы ад вібрацыі на падшыпніках турбіны. Рэактарная ўстаноўка была пераведзена на паніжаны ўзровень магутнасці. Праз тры гадзіны энергаблок зноў быў падключаны да сістэмы «Вінніцаэнерга». Здарэнне не аказала ўплыву на змяненне радыяцыйнай абстаноўкі на тэрыторыі АЭС і кантралюемай 30-кіламетровай зоны.

*** Міністр абароны Расіі Павел Грачоў заявіў, што вывад расійскіх войск з тэрыторыі Арменіі і Азербайджана пачнецца 1 чэрвеня. Воінскія часці, што дыслацыруюцца ў Грузіі, застануцца там на часовай аснове. Статус расійскіх войск у Казахстане і Узбекістане будзе вызначаны ў ходзе двухбаковых перамоў. Грачоў указаў, што вывад войск з дзяржаў Прыбалтыкі можа быць завершаны ў 1994 годзе. У сераду расійскі міністр абароны прадставіў справаздачу сфарміраванаму ў мінулым месяцы Савету бяспекі Расіі.**

* Пасля заканчэння ў Лісабоне канферэнцыі па аказанню дапамогі былым рэспублікам СССР дзяржаўны сакратар ЗША Джэймс Бейкер наведае Грузію. Ён сустрэнецца са старшынёй Дзяржаўнага Савета Грузіі Эдуардам Шэварднадзе. Выступаючы па мясцоваму тэлебачанню, Шэварднадзе заявіў, што эканоміка рэспублікі знаходзіцца на мяжы катастрофы, а першачарговай задачай улад з'яўляецца папярэджанне голаду.

*** Прэзідэнт Францыі Франсуа Мітэран і канцлер ФРГ Гельмут Коль падпісалі ўчора дагавор аб стварэнні да 1995 года сумеснага франка-германскага армейскага корпуса колькасцю 35 тысяч чалавек. Цяпер існуе франка-германская брыгада, якая налічвае 4 тысячы вайскоўцаў.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

**Васіль НАЙДЗІН**

# ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

## *Урыўкі з аповесці*

**(Заканчэнне. Пачатак у № 100).**

— Разбяруцца! — супакойваў ён сам сябе, вяртаючыся ў той вечар з выцвярэзніка — падумаць толькі, з выцвярэзніка! — дамоў.

— Кладзі ты на ўсё болт! — моцна пацiснуў яму пры развітанні руку Раман.

— І спі спакойна,— падбадзёрыў Сяргей.— У любым выпадку — замочым!

***

У тое, пра што расказаў Валянцін, жонка паверыла адразу. І супакоіла як магла:

— Не бяры да галавы...

— А калі выключаць... З маёй партыі. Няловка неяк...

— Ну што яна табе дала, партыя?

Валянцін ускіпеў:

— Усё!.. І мне, і ўсяму чалавецтву. Гэта ж — авангард! Пралетарскую рэвалюцыю здзейсніла. Накарміла народ, напаіла...

— Вось іменна. А потым сказала — канчайце піць! Добра яшчэ было б, каб не елі...

У Валянціна адняло мову. А жонка дабівала:

— Мабыць, і ты рулявы?.. Ні дачы, ні машыны. Кватэру займелі на свае кроўныя. Ды нам бы хоць машыну пральную. Ды штаны табе... Нічога нідзе няма. Затое на твае ўзносы начальства шыкуе.

Ён вырашыў павярнуць размову ў другі бок.

— Дурніца ты мая. Я ж восем гадоў запар у пераможцах сацыялістычнага спаборніцтва хаджу. А тут — выкінштэйн з партыі! Ты што?!.

— Граматы яшчэ падлічы, якімі цябе, дурня, адорвалі. Абклей імі сцены...

У Валянціна была добрая звычка ніколі з жонкай не ісці на абвастрэнне. І наогул многія лічылі, што ў яго мяккі характар.

— Канчаем канфрантацыю,— сказаў ён.— Думаю, усё ўлічаць.

— І пра партрэт, што на заводскай Дошцы гонару ці на той алеі Славы вісіць, сказаць не забудзься. Якога гэта ён памеру?

— Два метры ў шырыню і тры—ў вышыню... Партыя рабочага чалавека ў бядзе не пакіне.

***

На ўсё жыццё запомняцца яму гэтыя сходы, пасяджэнні бюро, камісій розных па разборы яго персанальнай справы. Атрымлівалася нешта неверагоднае. Ён, выходзіла, распіваў спіртныя напіткі прама на вуліцы, пры затрыманні аказаў «злоснае супраціўленне» работнікам міліцыі, быў дастаўлены ў выцвярэзнік...

— Разумныя вы, хлопцы, ці не?—запытаў Валянцін па-прасцяцку тых, з кім не адзін год працаваў разам.—І Сяргей з Раманам не вінаватыя. Піва з цюлькай пачалі піць. А тут міліцыянеры, яршыстыя...

Асобныя ўжо выказваліся ў яго абарону. Астатнія сядзелі, нізка апусціўшы галовы, чакаючы галасавання.

Сакратар партыйнай арганізацыі выступіў апошнім. Ён нацэліў прысутных на правільныя дзеянні:

— Мы ўсё, таварыш Рубанюк, разумеем. Спачуваем, перажываем. Але любое дачыненне, няхай сабе і дробязнае, да гэтай справы... прабачце, да п'янства і алкагалізму, павінна карацца самым суровым чынам.

— Дык што ён, вораг народа? Ці партыі нашай?—запытаўся нехта смелы з задніх радоў.— Калі б нават і выпіў грамаў сто. Такой бяды!..

— Абмяжуемся сёння разборам адной справы,— кінуў рэпліку інструктар райкома партыі, які сядзеў у прэзідыуме.— Вы прымайце сваё рашэнне, а мы прымем — сваё. Дарэчы, нас таксама могуць паправіць. Ёсць яшчэ гарком, ёсць абком. І ЦэКа!

Заводскія камуністы прагаласавалі за вымову. Простую, нават без занясення ва ўліковую картку.

— Тым горш для яго,— сказаў на развітанне разлаваны госць.— Да сустрэчы на пасяджэнні бюро райкома партыі...

***

...Абмеркаванне яго пытання на пасяджэнні бюро райкома партыі, можна лічыць, ужо завяршалася.

Прагаласаваўшы, апусцілі галовы члены бюро.

Першы сакратар узняўся са свайго месца, паправіў гальштук і зашпіліў на ўсе гузікі пінжак:

— Большасцю галасоў вы выключаны з партыі. Здайце партбілет...

Рубанюк глядзеў на членаў бюро, на сакратара і не мог уцяміць, што яму цяпер рабіць.

— Вы... вы што, таварышы?!

— Якія мы цяпер табе таварышы,— адзін з членаў бюро злёгку пастукаў алоўкам па стале.—Параспіваліся! Замест таго, каб яшчэ лепш працаваць...

— Грамадзяне!..— вырвалася ў Рубанюка.— Працую ж... А пасля работы ўзялі мы пяць бутэлек...

— Ну, досыць. Справа закончана, прагаласавалі ўсе... У турму ж вас не садзяць, узнагароды — пры вас. Працуйце як працавалі. Білет толькі здайце,— першы сакратар наблізіўся да яго.

Кроў ударыла Рубанюку ў галаву і адтуль з хуткасцю маланкі пайшлі каманды ва ўсе часткі цела. Далей рабілася ўсё неяк само сабой. Ён напружыўся, рашуча зрабіў два крокі наперад і саўгануў першаму пад самы нос кукіш.

— Не аддам партбілет! Са мной застанецца...

Выбягаючы ўжо з залы, ён пачуў вокліч:

— Міліцыю! Хутчэй выклікайце...

— Уцячэ, прахвост...

Ён не памятае, як збягаў з трэцяга ці чацвёртага паверха па мармуровых прыступках, як унізе, у вестыбюлі, ледзь не пераблытаў дзверы з акном.

***

Жонка сустрэла яго моўчкі.

На твары мужа прачытала навіну.

— Вось так!..— паглядзеў ён у сумныя вочы сваёй Валянціны.— Ледзь зноў не забралі. Каб крыху затрымаўся — заграблі б... Сутак на пятнаццаць. Ці наогул — на год. Яны могуць... Але білета я ім не аддаў.

Ён пайшоў на кухню, адкрыў халадзільнік. Дастаў адтуль бутэльку гарэлкі і паставіў на стол.

— Алкаголікам зрабілі!..— Валянцін прысеў на ўслонік уласнай вытворчасці і схіліў долу галаву.— Яршы зялёныя!.. І я ім ужо — не таварыш.

Падышла Валянціна. Асцярожна паклала на яго галаву руку. Пакратала жорсткія валасы і ён адчуў, як у жонкі дрыжаць пальцы.

— Нічога, Валік, пражывём.

— Не вешацца ж...— пацягнуў ён думку жонкі далей.— А то зусім засмяюць. І дзецям — пляма на біяграфію. Маўляў, напіўся бацька і павесіўся. Пасля таго, як выключылі з партыі. За п'янку...

Неўзабаве, як і трэба было чакаць, завіталі Сяргей з Раманам.

«Павіншавалі» коратка і ясна. Сяргей запэўніў, што ў хуткім часе падыме ў цэху бунт. Потым, па яго ініцыятыве, уздыбіцца завод. Падтрымае і горад.

— Навошта рэвалюцыя,— Валянцін адкаркаваў бутэльку.— Была ўжо... І не адна. Ну, выключылі. Адным менш, другім — больш. Раней не такія чысткі рабілі.

— Я не пра цябе. Жывём жа з кожным днём усё горш і горш. Ні апрануцца, ні абуцца... А наконт выключэння з партыі ты не перажывай. Папросяць яшчэ назад. Хто гегемоны? Мы!..

— Вось іменна! — уключыўся ў размову Раман.— Папросяць. Два планы ім давай! «Арганізуем трохзменку, папрацуем у суботу...» А дулю пад нос! Піўка не дазваляеце пасля работы выпіць...

Выпілі.

Закусілі.

Пайшлі на паўтор...

— Хочаце, я вам зараз пачытаю верш аднаго разумнага чалавека,— звярнуўся да сяброў Валянцін.— Сіла верш!

Валянцін адлучыўся кудысьці на пару хвілін і вярнуўся на кухню з запісной кніжкай. Пагартаў яе, знайшоў патрэбную старонку.

— Пачнём?

— Давай...

І Валянцін пачаў чытаць.

**«Живем духовно, безгреховно,**
**Отнюдь не безидейно.**
**Да только больно уж морковно,**
**Безмясно, безидейно.**
**Соблазнам всем противясь стойко,**
**Боюсь, как бы с годами-то**
**Не превратились мы в надстройку**
**Без всякого фундамента.**
**А если мыслить по-марксистски,**
**То, не давая Маху,**
**Порою надо жрать сосиски**
**И принимать рюмаху».**

Сяргей з Раманам запляскалі ў ладкі.

— Такія вершы я слухаў бы дзень і ноч. А хто гэта ёмка так напісаў? — Раман вачамі паказаў на блакнот. І паглядзеў на Валянціна:— Не ты, не?

— Ёсць геніі. Канстанцін Сіманаў. 1974 год.

— А ты не маніш?

— Сам з часопіса перапісаў,— Валянцін паклаў сваю запісную кніжку на чысты край стала.— Вось, пазначана: «Дружба народов», № 2, 1980 год». Магу прынесці. Ён у мяне схаваны.

— Няўжо выпісваеш? — Сяргей са здзіўленнем паглядзеў на Валянціна.

Валянцін узяўся за недапітую бутэльку.

— Гэта разальём і паставім кропку. Бо няма прычын для весялосці...

# «ІДЗІ Ж, НАРОДЗЕ ЎВАСКРЭСЛЫ!»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Нязгасная лампада — на плошчы Незалежнасці. Высока і чыста гучаць духоўныя спевы. На душы і праўда светла — няма штурханіны і крыку, хоць людзей сабралася вельмі многа. Затое шмат ветлых, прыязных твараў, кветак. Хораша гавораць да высокай місіі, да ўсіх людзей Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Герасіменка, мітрапаліт Філарэт. Пра тое, каб агонь духоўнасці, які на працягу многіх вякоў цепліўся ў людскіх сэрцах, не згас у сэрцах беларусаў, усіх славян, усіх людзей. Каб ён абудзіў у нас любоў да Бога, адзін да аднаго, каб пераплавіў усё нядобрае, уваскрэсіў душы.

Потым усе ідуць хрэсным ходам да Свята-Духава кафедральнага сабора — па праспекце Скарыны, потым па вуліцы Кірылы і Мяфодзія. Чыстыя гукі званоў клічуць людзей да храма.

І зноў гучыць Слова — царкоўнае і свецкае. І зноў мы пераконваемся, што Слова больш хутка і надзейна заваёўвае сэрцы, чым сіла, прымус. Сярод мноства святарскіх галасоў, якія правяць службу, людзі пазнаюць настаяцеляў сваіх храмаў.

— Айцец Георгій чытае, —з гонарам паведамляе суседзям жанчына.

Голас айца Георгія сапраўды цяжка не пазнаць— евангельскае слова гучыць па-беларуску, што пакуль даволі нязвыкла для беларускай праваслаўнай царквы. Але менавіта роднае слова дапамагло захаванню нацыі, гаварыў да людзей прадстаўнік з Балгарыі — радзімы Кірылы і Мефодзія. І нам не ўзняцца без гэтага да вышынь духоўнасці, напамінае людзям Ніл Гілевіч. Роднае слова дапаможа душы ўваскрэснуць, прабіцца да святла.

...А ў саборы гэтым часам гаснуць усе свечкі, каб праз хвіліну загарэцца ад агню Нязгаснай лампады, прынесенай з Іерусаліма. Людзі падрыхтавалі свечкі, каб панесці часцінку Святога агню ў сваё жытло, у свае сем'і.

Няхай там пасвятлее.

**Людміла РЫЖАНКОВА, Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

# ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ПЕРАТВАРЭННЕ «КНЯЗЯ ЦЕМРЫ»

**Былы памочнік міністра абароны ЗША, які заслужыў мянушку «князя цемры» за свае антысавецкія погляды, нечакана ператварыўся ў прыхільніка сённяшняга расійскага кіраўніцтва. Цяпер ён выконвае абавязкі саветніка па канверсіі пры адным з буйнейшых абаронных прадпрыемстваў Расіі.**

### ЭЛІТА «ІНШАЗЕМНАГА ЛЕГІЁНА»

Палкоўнік Фрамажэ, што ўзначальвае мабілізацыйны аддзел французскага «іншаземнага легіёна», ніяк не можа нахваліцца добраахвотнікамі з Расіі і іншых краін СНД. «Гэтыя хлопцы, у многіх з якіх за плячыма вопыт Афганістана, — гаворыць палкоўнік, — мужныя, валодаюць баявой кемлівасцю, звыклыя да спартанскага ладу жыцця, адразу ж выконваюць загады і натхнёныя жаданнем застацца на Захадзе — адным словам, гэта для нас ідэальны матэрыял».

### О, ВЯЛІКАЯ І МАГУТНАЯ РУСКАЯ МОВА

Сур'ёзныя меры супраць асоб, што нецэнзурна лаюцца, прадугледжаны загадам кіраўніка адміністрацыі казахстанскага горада Руднага. Нецэнзурнае слова ў грамадскім месцы цяпер абыдзецца ў 1.000 рублёў. Калі няма грошай, штраф будзе заменены адміністрацыйным арыштам на 15 сутак. «Непапраўныя» будуць накіроўвацца на прымусовыя работы тэрмінам ад месяца да двух з утрыманнем 20 працэнтаў заробку.

### ТЭЛЕВІЗАР — ЛЕПШАЕ СНАТВОРНАЕ!

**У ходзе масавага апытання жыхароў ФРГ выявілася, што 58 працэнтаў апытаных засынаюць каля тэлевізара.**

# Рэцэпты Маі Гагулан

**Чатыры дні ў Мінску выступала Мая Гагулан—масквічка, якая перамагла ў сабе смяротную хваробу, выкарыстоўваючы арыгінальную методыку японскага прафесара Нішы. Зараз яна нясе веды людзям — пра здароўе, рацыянальнае харчаванне. Яе дэвіз — карміць арганізм, а не хваробу, г. зн. не ўжываць нічога лішняга, штучнага, сапсаванага няправільнай апрацоўкай. Яна раіць есці пераважна сырыя прадукты раслліннага паходжання, не ўжываць цукру, алкаголю, тытуню, кавы, смажанага мяса, спецый і г. д. Вось некаторыя яе рэцэпты.**

САЛАТА ПРЫГАЖОСЦІ. Сталовую лыжку тварагу добра перамяшаць з дзвюма сталовымі лыжкамі сырахвашы ці кефіру, дадаць чайную лыжку алею. Гэта будзе аснова. Дадаём да яе любы жывы прадукт — агародніну, садавіну, зяленіва, але каб па аб'ёму было ў тры разы больш, чым аснова. Можна браць капусту, яблыкі, апельсін, моркву, розныя віды лісцевых салатаў і г. д. Калі на працягу месяца адзін раз у дзень ужываць такую страву (вядома, пазбягаючы ў астатнім харчаванні празмернасцей) — выдатна ачысціцца печань, а значыць, памаладзее ўвесь арганізм.

«ЖЫВЫ» БОРШЧ. Закіпяціць невялікую колькасць вады і засыпаць туды здробненую на тарцы ці дробна парэзаную агародніну (капуста, буракі, морква, цыбуля, пятрушка і г. д. — што ёсць). Крыху пасаліць. Варыць усяго некалькі мінут. Адначасова закіпяціць сыроватку (у 3 разы больш, чым вады) і ўліць у «агародніннную кашу». Захутаць на 1,5 гадзіны. Разліць у талеркі, заправіць зяленівам, смятанай, свежым памідорам ці «храновінкай» (гл. ніжэй). Па гэтаму ж прынцыпу гатуюцца ўсе супы (зварыць бульбу, крупы, астатняе — сырое). Карысна дадаць у страву дробна парэзанае бацвінне рэпы, радыску, крапіву, дзьмухавец.

«ЖЫВАЯ» КАША. Тры сталовыя лыжкі аўсяных круп змалоць на кавамолцы, дадаць паўшклянкі вады, паставіць у цёплае месца (можна на ацяпляльную батарэю). Праз паўгадзіны дадаць чайную лыжку алею і дробна парэзаны яблык. Каша гатова. Усе прадукты захаваюць сваю каштоўнасць.

БУЛЬБЯНЫЯ «ПІРОЖНЫЯ». Бульбіны добра памыць, разрэзаць напалам і пакласці ў духоўку — разрэзамі ўверх, запячы. Можна есці і так, а можна паліць соусам (тоўчаны арэх, часнок, смятана; альбо смятана, часнок, дробна парэзанае зяленіва). Замест смятаны можна выкарыстаць маянэз, але лепш — хатняга прыгатавання (смятана, яблычны воцат, гарчыца, яечны жаўток).

ПРЫПРАВА «ГЮРЗА». 1 кг свежых памідораў змалоць на мясарубцы, крыху пасаліць, дадаць 300 г часнаку, таксама прапушчанага праз мясарубку. Закрыць поліэтыленавай накрыўкай і паставіць у халоднае месца. Можна дадаць 300 г падрыхтаванага такім жа чынам балгарскага перцу. З такой прыправай любая страва будзе вельмі смачнай, а да ўсяго ўзбагачанай мікраэлементамі, якіх багата і ў памідорах, і ў часнаку.

Разнавіднасцю «гюрзы» з'яўляецца «храновінка» (1 кг памідораў +300 г часнаку + 300 г хрэну. Можна дадаць 300 г кіслых яблыкаў). Усё здрабняецца праз мясарубку і раскладваецца ў слоікі. У любую пару года гэта дапаможа мець паўнацэннае харчаванне.

### ЯК ЗРАБІЦЬ З ЦУКРУ СЯБРА, А НЕ ВОРАГА

**750 г цукру (яшчэ лепш, калі змалоць яго на кавамолцы) засыпаць у літровы слоік і дадаць шклянку (200 г) вады і 200 г мёду, апошнія кампаненты папярэдне перамяшаць. 8 дзён запар тройчы ў дзень перамешваць драўлянай лапаткай. На 9-ы дзень прадукт гатовы—цукар ператвараецца ў фруктовы, няшкодны для арганізма.**

**А вось прадукты, якія, на думку Маі Гагулан, трэба абавязкова ўжываць тым, хто жыве на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях.**

**Морква (не менш дзвюх моркавак у дзень), алей, тварог, гранаты, разынкі, чарнаслівў (не больш пяці штук у дзень), сок буракоў, морквы, крапіва, чарнаплодная рабіна, ільняное семя (талакно), вітамінны чай, вітаміны, а таксама ўсе прадукты, якія ўтрымліваюць кальцый (зялёная агародніна, капуста, буракі, цыбуля, клубніцы, кісламалочныя прадукты, лісты дзьмухаўцу (у тым ліку і сушаныя) і г. д.**

# Стравы з казінага малака

### ДАМАШНІ СЫР

З казінага знятага ці прасепарыраванага малака зрабіце сырахвашу. Знятае малако падагрэйце да 33° С ці дадайце сырахвашу ў знятае малако.

Атрыманы прадукт патрымайце на невялікім агні 15 мінут. Як толькі сыроватка падымецца па краях, злёгку памяшайце. Маса павінна быць зеленавата-празрыстай. Пры павышэнні тэмпературы сыроватка стане больш шчыльнай. Цяпер памешвайце яе энергічней (мінут 15), пакуль тэмпература падымецца да 40° С (але не вышэй), інакш тварог атрымаецца жорсткім, сухім, ці, наадварот, будзе надта вадкім. Пасля гэтага масу змясціце ў палатняны мяшок і падвесце ці пакладзіце пад прэс, а калі вадкасць сцячэ, дабаўце солі, кмен ці часнок і замясіце рукамі, пакуль не атрымаецца цеста без камякоў, якое добра фармуецца. З яго зрабіце некалькі сыроў (лепш размерам 6—7 сантыметраў) і ненадоўга пакіньце ў добра праветраным памяшканні, на саломе. Пасля сушкі вынесіце ў цёплую сырую камору, кладоўку, дзе на 14-ы дзень на сыры ўтворыцца скарынка. У гліняным гаршчочку пад марляй ён захоўваецца да чатырох месяцаў.

### РАКФОР

Малако падагрэйце ў гліняным ці бляшаным посудзе, на наступны дзень раніцай здыміце з яго смятанку, змяшайце са свежым ранішнім малаком і заквасьце. Атрыманы тварог, аддзяліўшы яго ад сыроваткі, пакласці ў формы (у 3 слаі), перасыпаць кожны слой сухім цвілым хлебам (для ўтварэння пражылак унутры сыру). Прыціснуць будучы сыр на некалькі дзён грузам. Штодзень формы з сырам паварочваць. Затым зняць формы і праветрыць сыр у халаднаватым месцы.

Далей сыры «спеляць». Натрыце іх соллю і пакладзіце адзін на адзін, а затым ачысціце ад паверхневай цвілі і мяккага верхняга слоя. Праз 7—8 дзён аднясіце ў падвал. Тут сыры набудуць жоўтую і чырванаватую афарбоўку, пакрыюцца слоем белай цвілі. Гэту цвіль здымайце кожныя 8—14 дзён да поўнага выспявання.

# Сам сабе метэаролаг

**Кожны тыдзень перад выхаднымі днямі шматлікая армія дачнікаў, аматараў адпачынку «на прыродзе», турыстаў, ды і гараджан, якія нікуды не збіраюцца ехаць, але плануюць свой адпачынак, з асаблівай цікавасцю чакаюць прагнозаў метэаролагаў, якія перадаюць радыё і тэлебачанне, друкуюць газеты.**

**Між тым, кожны можа самастойна скласці даволі дакладны прагноз надвор'я на бліжэйшыя дні і нават гадзіны. Трэба толькі, каб пад рукой быў барометр і тэрмометр. А таксама веданне прызнакаў яснага і непагодлівага надвор'я, або набліжэння перамены надвор'я.**

**Сёння мы раскажам пра ПРЫЗНАКІ ЎСТОЙЛІВАГА ЯСНАГА НАДВОР'Я.**

● На працягу некалькіх дзён высокі **атмасферны ціск** паволі і няспынна павышаецца або застаецца нязменным.

● Правільны сутачны ход **тэмпературы паветра** ў летні час: днём горача, ноччу ядрана і халаднавата; узімку: ноччу моцны мароз, днём ён слабее, к ночы зноў узмацняецца, ноччу ў лесе значна цяплей, чым у полі; на ўзгорку або ўзвышшы цяплей, чым унізе.

● **Неба** зусім яснае і бязвоблачнае. Вясной, летам і восенню могуць узнікаць кучавыя воблакі, якія павялічваюцца ў пасляпаўдзённы час і знікаюць (таюць) к вечару. Іх яшчэ называюць кучавымі воблакамі добрага надвор'я. **Воблакі** плывуць па небу ў тым жа напрамку, у якім дзьме вецер ля паверхні зямлі. Часам з самай раніцы бачныя высокія перыстыя воблакі, якія здаюцца нерухомымі і знікаюць к вечару.

● **Ападкаў няма.** Ноччу выпадае густая раса (узімку — шэрань). Раса неўзабаве пасля ўсходу Сонца хутка высыхае.

● У лагчынах і нізінах вечарам і ноччу ўтвараецца туман. Раніцай пасля ўсходу Сонца ён расходзіцца. Зара залацістая або ружовая. Зеленаватая зара прадказвае надыход доўгага засушлівага перыяду надвор'я. Узімку жаўтавата-карычневая зара бывае звычайна перад працяглымі моцнымі маразамі. **Дым** слупом узнімаецца ўверх. Вянцы (але не кругі) ў воблаках каля Месяца—вялікага памеру. **Зоркі** мігцеюць слаба і паблісквакоць зеленаватым светам. **Ластаўкі і стрыжы** лятаюць высока. У асенні перыяд лятае шмат **павуціння.**

Усё гэта прызнакі ўстойлівага яснага надвор'я.

